# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 19 (1617) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 10 МАЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.




„У мяне была іх групавая фатаграфія".

## ДЗЕЦІ З КАРАКУЛІНА

## ПЕРШАЯ СУСТРЭЧА

Мой спісак даўнейшых „дзяцей з Каракуліна", якіх удалося мне дагэтуль адшукаць, павялічыўся ўжо да 14 чалавек. Пра некаторых з іх я паспеў ужо крыху напісаць. Пачалося з Генрыка Малышкі — вядомага ў Беластоку настаўніка танцаў, і Эдварда Станішэўскага — рабочага электраманцёра, які зараз ужо на пенсіі. Г. Малышка першы адгукнуўся на мае пошукі колішніх „каракулінцаў", а за яго парадай я хутка знайшоў і Э. Станішэўскага. Генрык Букерт сам завітаў у рэдакцыю. Цяпер яму каля 60-ці, але ён усё яшчэ не патраціў сваёй юнацкай непаседлівасці. Невысокі, энергічны, шустры чалавек. Цяжка яму ўсядзець на адным месцы. Гэта ён, так сказаць, „уласным промыслам" рашыў дабірацца з Каракуліна што на Каме каля Урала, аж у Беласток. На гэтым шляху заапекаваліся ім чырвонаармейцы і юнак (быў ён тады 16-цігадовым хлопцам, стаў **сынам палка** адной са шматлікіх ваенных часцей Чырвонай Арміі. Ён першы ўлетку 1944 г. прынёс у Беласток вестку аб лёсе дзяцей, якія ў чэрвені 1941 года з такой радасцю ехалі на канікулы ў Друскенікі піянерскі лагер... Вядома, я яшчэ вярнуся да яго незвычайнага лёсу, на аснове якога можна было б напісаць цэлую сенсацыйную аповесць.

Паспеў я ўжо зарэкамендаваць і палкоўніка Рамуальда Зайкоўскага. Пасяліўся ён у Варшаве. Гэта заслужаны работнік польскай контрразведкі

А іншыя? Іншыя чакаюць яшчэ ў чарзе, бо пра ўсіх адразу немагчыма пісаць, а ў кожнага чалавека свой варты ўвагі лёс. Пакуль што назаву тут

(Працяг на стар. 4)

## ЭЛІТА ЧЫТАЦКАЙ ПУБЛІКІ

Не заўжды ёсць магчымасць сустрэцца з адборным колам чытачоў беларускай літаратуры, а такой нагодаю з'явіўся фінал Чытацкага конкурсу, адноўленага пасля доўгага часу Беларускім грамадска-культурным таварыствам. З'ехалася эліта чытаючай публікі (гавару гэта без аніякай іроніі). У нас усё яшчэ абставіны такія, што беларускую кніжку чытаюць неяк амаль потайна, калі мець на думцы псіхалагічную атмасферу, якая склалася гадамі. Справа ў тым, што наш чытач даходзіць да беларускага мастацкага слова праз начытанасць у іншых літаратурах. Гэта вельмі важная заўвага: свет расчыняецца перад намі не дзякуючы беларускаму культурнаму слову, якое, практычна, адсутнічае ў грамадскім побыце. Яно, гэтае слова, толькі дапаўняе — як бышцам з боку — нашу канструкцыю светаадчування, і дапаўняе тады толькі, калі мы гэтага захочам або дапусцім. Калі нашы культурныя патрэбы акажуцца настолькі развітымі, што працягнем, урэшце, руку і па беларускі друк? Беларус сутыкаецца перш з польскай ці рускай літаратураю, а з беларускаю — потым ужо. І з іншымі, больш аддаленымі ад нас, літаратурамі ён знаёміцца ў польскіх або рускіх перакладах менавіта. Забыўшыся пра гэта або не разумеючы таго, мы не зразумеем усіх асаблівасцяў беларускай чытацкай з'явы. Трэба не абы-якой інтэлектуальнай спеласці і духоўнай незалежнасці, каб у такіх умовах стацца чытачом беларускіх кніжак, на беларускай мове. Трэба тут, як

(Працяг на стар. 3)

## ІНСТРУКТАРЫ ПАТРЭБНЫ, ЯК ХЛЕБ

Ніхто не скажа, што беларусы ў галіне культурнай дзейнасці спяць. Наадварот, на аснове таго, што бачым у апошні час, мусім сказаць, што беларусы сваёй працай на культурнай ніве з усёй моцай заяўляюць аб сваім існаванні і аб намерах у далейшым не спыняць разгону.

Культурны народны рух беларусаў развіваецца вельмі бурліва і ўсебакова. Ёсць аднак яшчэ і аблагі ў гэтай дзейнасці і з гэтым вяжацца прапанова, якая мае адказаць на пытанне: дзе ўзяць інструктараў для шматлікіх калектываў, якія растуць, як грыбы пасля цёплага дажджу, па ўсіх беларускіх вёсках і па гарадах.

Вельмі вялікая страта, калі калектыў арганізуецца, блісне, як зорка, аб'явіцца сваім нараджэннем і хутка заціхае, рассыпаецца, бо не мае спецыяліста, які б пакіраваў ім далей, які б памог развівацца. Пастаянна чуецца ад розных калектываў: „Дайце інструктара".

Трэба ўрэшце стварыць нам інструктарскую базу сваімі ўласнымі сіламі і са сваіх людзей. Трэба рыхтаваць кадры інструктараў па спевах і тэатральных, бо штораз больш недахопаў адчуваецца. Тут існуе такое меркаванне, вельмі цікавае: „Што дамо рады самі зрабіць, трэба зрабіць". А тое, аб чым мы вышэй гаварылі, можам самі зрабіць ужо зараз. У кожнай вёсачцы, нават найменшай, ёсць музыкант або чалавек, які любіць працу на сцэне. Вакол такіх людзей гуртуюцца наогул іншыя, людзі, якія хочуць займацца мастацкай самадзейнасцю. Калі ж мы такога самароднага спецыяліста трохі падвучым, мастацкі рух на гэтым толькі выйграе. Ад зараз патрэбны нейкія семінары ці курсы для ўсіх, якія займаюцца ці хочуць займацца мастацкай самадзейнасцю. Такія курсы можна арганізаваць, раз у квартал ці часцей, па раёнах, напрыклад, у Гайнаўцы для ўсяго гайнаўскага раёна. Падобныя рэгіянальныя курсы могуць быць праведзены і ў раёнах Бельскім, Беластоцкім, Сямяціцкім, Сакольскім. Так добра складваецца, што маем высокага класа спецыялістаў, якія маглі б узначаліць курсы, гэта — Сяргей Лукашук, Аляксандр Лукашук, Пётр Нявінскі, Сцяпан Копа, Пётр Скепка, Янка Крупа і іншыя. На заканчэнне можна ў самым Беластоку правесці яшчэ

(Працяг на стар. 7)

 © PDF: Kamunikat.org 2023

## НА мяжы

### АБ СТАРШЫНЯХ (2)

Са сказанага дагэтуль мною мог бы нехта зрабіць вывад, што я татальна да ўсіх папярэдніх старшыняў адношуся адмоўна і развіваю культ уласнай асобы. Аднак паніжэнне былых старшыняў у ніякім выпадку не з'яўлялася маёй мэтай. Наадварот, прагну падкрэсліць, што зрабілі яны вельмі многа добрага і што ў такіх справах, як музей, або эстрадная група, мы да сёння не можам дасягнуць таго ўзроўню, які быў калісьці. З цеплынёй успамінаю я апошняга старшыню Самоціка, які быў добрым чалавекам і адыйшоў ад нас так недарэчліва і так рана.

Зрэшты і да іншых старшыняў, па сутнасці, прэтэнзіі не маю. Рабілі яны што ўмелі і рабілі, як умелі. А тое, што ў большасці выпадкаў — з выключэннем Склубоўскага і Хмялеўскага — не мелі ніякіх беларусазнаўчых кваліфікацый і ведаў, што часта не маглі чыста па-беларуску выказацца, як у слове, так і ў пісьме — гэта ўжо можа ў большай ступені іх бяда, чым віна. Былі яны прадуктам той эпохі, у якой кампетэнцыйнасць ацэньвалася нізка або не мела ніякай цаны і вартасці.

Я часта сустракаю аднаго з нашых былых старшыняў. Ажаніўся ён з дзяўчынай з суседняй вёскі Багнюкі, дзе мае на высокім узроўні невялікую гаспадарку. Зрэшты, гэта не дзіўна, ён па прафесіі — аграном. Гэта чалавек ветлівы і сардэчны. Пры сустрэчы гаворыць аб розных справах, але ніколі аб Таварыстве. А павінен, бо ж быў старшынёй Галоўнага праўлення і разам з адыходам з гэтай функцыі не павінен парываць эмацыянальных сувязей з арганізацыяй. Ці ён сёння з'яўляецца членам БГКТ? Не ведаю. Яшчэ раз падкрэсліваю, што гэта прыстойны, добры чалавек. Аднак ніякіх кваліфікацый беларусазнаўчых не меў. Быў на наш з'езд прывезены ў партфелі. Мы паслухмяна выбралі яго старшынёю, хаця ўсе ведалі, што быць можа гэты выдатны аграном не можа быць выдатным старшынёй культурна-асветнай арганізацыі, бо ў гэтай галіне не мае адпаведных ведаў і кампетэнцый. Было б мне, аднак, прыемна, калі б ён і ўсе іншыя старшыні былі сярод ахвяравальнікаў на музей, сярод падпісчыкаў „Нівы“, калі б дзейнічалі ў тых аддзелах ці гуртках БГКТ, якія існуюць у мясцовасцях іх жыхарства.

Хаця я не з'яўляюся староннікам капіталізму, то ўсё ж такі мне падабаецца адна з'ява ў палітычным жыцці заходніх краін. Маю на думцы тое, што для прыкладу прэм'ер-міністр перастае выконваць сваю функцыю і становіцца толькі міністрам або дырэктарам завода. Пасля пэўнага часу ізноў становіцца прэм'ер-міністрам. А ў нас? Пашана, павага, культы спадарожнічаюць чалавеку так доўга, як доўга знаходзіцца ён на п'едэстале. Калі ён адтуль звальваецца, то траціць не толькі функцыю, але і пашану, і прызнанне,

(Працяг на стар. 6)

## ПАЕЗДКА Ў КРАІНУ АЗЁР

### „ЗОРКА“ Ў МІНСКУ

Павітаўшы гасцей Усесаюзнага тыдня дзіцячай і юнацкай кнігі, расчыніўшы для кніжкі, яе чытачоў і аўтараў усе найбольшыя залы і палацы горада і нацешыўшы Святам кніжкі сталіцу, гаспадары-беларусы запрасілі ўсіх гасцей Свята пабываць у іншых мясцовасцях, даць магчымасць жыхарам меншых гарадоў сустрэцца з пісьменнікамі, а гасцям паказаць Беларусь, яе прыроду і гасцінны народ.

Госці кніжчынага свята былі падзелены на групы і раз'ехаліся ў розныя канцы Беларусі.

Мне давялося быць у групе рэдактараў дзіцячых часопісаў, гасцей часопіса „Вясёлка“. Кіраваў групай галоўны рэдактар гэтага часопіса, вядомы ўжо пісьменнік Уладзімір Ліпскі. У склад групы ўваходзілі галоўны рэдактар украінскага дзіцячага часопіса „Барвінок“ Васіль Маруга, галоўны рэдактар кіргізскага дзіцячага часопіса „Бекчэчэкей“ („Падснежнік“) Тактасун Самудзінаў, літаратурны рэдактар часопіса „Вясёлка“ паэт Казімір Камейша і я, рэдактар „Зоркі“. Шлях наш ляжаў на Маладзечаншчыну, у краіну блакітных азёр. Чакалі нас на шляху два дні сустрэч з дзецьмі ў школах і клубах.

З Мінска выехалі мы ранічкай на паўночны захад старым Віленскім трактам. Мінулі штучнае Мінскае мора, збоку застаўся старажытны беларускі горад Заслаўль (колішні Ізяслаў, як гаворыць старая легенда, пабудаваны быў для князя Ізяслава, сына Рагнеды). Праехалі Радашковічы. Чакаюць нас у Красным. Затрымліваемся ля школы. Будынак вялікі, новы, відны. Ля ўваходу дзеці ў нацыянальных беларускіх касцюмах сустракаюць нас хлебам-соллю — цудоўным прыгожым караваем на беларускім багатым ручніку. Духмяны хлеб казыча нос, горла сціскае ўзрушанасць. Гаспадары запрашаюць паглядзець школу. Вучыцца тут каля 700 дзяцей, дзесяцігодка. Будынак блішчыць навізной, чысцінёй. Нечым прыгадвае мне нашу бельскую „тройку“.



Сустрэча ў школе ў Красным. У прэзідыуме — пісьменнікі і кіраўнікі школы. Выступае рэдактар „Зоркі“.

У школьнай глядзельнай зале — поўна дзяцей. Нас запрашаюць у прэзідыум і прапануюць паслухаць, што дзеці падрыхтавалі для нас і аб нас, іхніх гасцях. У слоўна-песенным мантажы пра кніжку чуем словы з твораў Уладзіміра Ліпскага і Казіміра Камейшы, найбольш тут вядомых дзецям, спецыяльныя прывітанні для рэдактара „Барвінка“ — і гэты часопіс тут добры сябар, добрыя словы ў прывітанне для „Бекчэчэкея“ і „Зоркі“. Дзеці запрашаюць выступіць рэдактараў. Усе па чарзе расказваюць аб сваіх часопісах, чытаюць уласныя творы. Мне давялося расказваць аб „Ніве“ і „Зорцы“, аб беларусах у Польшчы, аб нашых чытачах, якія старанна вывучаюць беларускую мову і чытаюць беларускія кніжкі. Дзецям вельмі спадабалася мая прапанова пачаць перапісвацца з беластоцкімі дзецьмі. Усе хацелі даведацца, як пісаць пісьмы ў нашу газету, давалі свае адрасы. На заканчэнне ўсе дзеці хацелі мець аўтографы гасцей, а ад мяне — перш за ўсё адрас рэдакцыі.



Як відаць, слухаць было цікава.

Потым нас запрасілі на чай, дзе на вышываных абрусах высіліся горы пірагоў, булак, пячэння. Усё гэта падрыхтавалі дзеці, якія вучацца рабіць такія цуды на занятках працы.

У час гэтай гасціны да нас падыйшоў мясцовы актывіст з недалёкай ад Краснага вёсачкі Ракуцёўшчына. Даведаўшыся, што прыехалі пісьменнікі, чалавек захацеў параіцца. Вёска Ракуцёўшчына — гэта мясцовасць, дзе жыў Максім Багдановіч. Праз 4 гады будзем святкаваць 100-годдзе з дня нараджэння паэта. І вось да гэтага дня жыхары вёскі і ваколіц хочуць пасадзіць вялікі і прыгожы сад і назваць яго імем паэта. Актывіст прасіў пісьменнікаў памагчы правесці гэта арганізацыйна.

У Маладзечне нас чакалі ў раённай бібліятэцы. Зноў сустрэлі гасцінна хлебам-соллю на вышываным ручніку. Аглядаем новы, яшчэ пахнучы свежай фарбай будынак раённай бібліятэкі — царства кніжак, выгодныя і відныя чытальныя залы. Зноў мы расказваем дзецям аб сабе, паэты чытаюць вершы, а дзеці, на заканчэнне, выступаюць з канцэртам.

З бібліятэкі забіраюць нас арганізатары наступнай сустрэчы, ужо ў Вілейцы. Едзем.

Вілейка — прыгожы зялёны гарадок на рацэ Віллі. На пачатку 70-х гадоў тут было пабудавана вялікае штучнае вадасховішча і гідравузел, дзякуючы чаму ўтварылася Вілейска-Мінская водная сістэма, якая дае паўтарамільённаму Мінску каля мільёна кубаметраў вады ў суткі.

У Вілейцы нас чакалі адразу ў двух месцах — у раённым доме культуры і ў тэхнічным вучылішчы. Давялося падзяліцца на дзве групы. Мне з рэдактарамі „Вясёлкі“ і „Барвінка“ выпала выступаць у доме культуры. Дзеці слухалі нас, задавалі пытанні, а потым выступілі мясцовыя маладыя паэты, чыталі свае вершы сапраўдным пісьменнікам і вельмі хваляваліся. Спроба выпала вельмі добра. Усе, і госці, і гледачы, былі задаволены. Пасля сустрэчы з канцэртам выступіў мясцовы фальклорны калектыў, ужо вядомы ў сваёй ваколіцы.

Пасля сустрэчы гаспадары паказалі гасцям свой дом культуры з вельмі багатай і разнастайнай дзейнасцю. Якраз у той дзень была адчынена выстаўка прац мясцовых фатографаў. Асабліва вядомы тут сваімі якаснымі работамі Сяргей Глоба.

Першы дзень сустрэч з беларускімі чытачамі заканчваем даездам да возера Нарач, да дзіцячага лагера „Зубраня“, які завуць таксама беларускім „Артэкам“.

Аб гэтай жамчужыне беларускай прыроды — у наступным нумары.

**Яніна Чэрнякевіч**



 © PDF: Kamunikat.org 2023

# БЕЛАРУС ПАД НЕБАМ ІТАЛІІ

— І дзе толькі не пабывалі беларусы ў апошнюю вайну?! — гаворыць Грыша Юшчук з Крывой, што каля Локніцы. — Увосень 1939 года, калі ў нас настала Савецкая ўлада, я паехаў аж у Казахстан, і працаваў там у калгасе „Каратал". У 1942 годзе, калі немцы ўжо падыходзілі пад Сталінград, атрымаў я павестку ісці ў польскае войска. Усіх мабілізаваных у гэтую армію павезлі далёка на поўдзень, за Ташкент, дзе адбывалася канцэнтрацыя. Мяне накіравалі ў дзесятую дывізію, у якой служыў я ў пятай роце. Абучалі нас усіх каля паўгода часу, пасля чаго пагрузілі ў эшалоны і павезлі ў Краснаводск. Адтуль усю гэтую польскую сілу пачалі перапраўляць параходамі праз Каспійскае мора ў Іран і далей, па рэчцы Тыгр, ажно ў раён Масула, у тамашні нафтавы басейн. Нашым заданнем было абараняць той рэгіён у выпадку набліжэння туды нямецкай арміі. Але нямецкае наступленне захлынулася на хрыбтах Каўказа, і таму немцы туды ніколі не дабраліся. Калі гэта стала ясным, нас перакінулі ў Сірыю, а з Сірыі ў Егіпет, у Порт-Саід. Гэта ўжо Паўночная Афрыка, а ў Паўночнай Афрыцы ў той час дзейнічалі нямецкія і саюзныя з імі італьянскія арміі, якія выбівалі адтуль англічанаў.

Пасля гэтай афрыканскай вайны, неспадзявана пагрузілі нашы атрады на васемнаццаць караблёў і мы паплылі на іх у невядомым нам напрамку, праз вялікае мора. Выявілася неўзабаўку, што даплываем мы да Італіі, да порта Тарэнта. Толькі мы паспелі выгрузіцца тут, як адразу кінулі нас на фронт каля Кастра Дэсанга. Мы ішлі з баямі і вызвалялі італьянскія гарады ад нямецкіх акупантаў (Італія тады ўжо капітулявала). Вызвалялі мы Рым, Анкону, Пескару, Сан Марына, Балонію. У Балонію разам з намі ўступалі англічане і амерыканцы. Я знаходзіўся тады ў саставе вядомага Другога корпуса Польскай Арміі пад камандаю ген. Андэрса. Гэты корпус быў ударнай сілай восьмай арміі аліянтаў, якой камандаваў англійскі маршал Мантгомеры (папулярна званы: Монці). У Балоніі ўжо ўсе адчулі, што блізкі канец вайне. Аб'явілі, што калі хто хоча, можа ехаць жыць у Англію або ў Амерыку. А я нікуды не хацеў, толькі ў сваю родную старонку, у Крывую на Беласточчыне.

Штодзень тысяча польскіх салдатаў адпраўлялася ў Польшчу, з усім сваім салдацкім рыштункам. Ехалі праз Аўстрыю, праз Чэхаславакію. Дэмабілізавалі нас у ваенным лагеры ў Козлі, што на Шлёнску, кіравалі эшалонам у Варшаву і з Варшавы кожны ўжо мог ехаць дамоў.

**(Працяг на стар. 5)**



**Грыша Юшчук з жонкай Надзяй.**

# ГОЛАС ЗА МІР ПРАВАСЛАЎНЫХ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Праваслаўная царква на Беласточчыне здаўна актыўна супрацоўнічае з Беластоцкім камітэтам абароны міру. Гэты камітэт і Беластоцка-Гданьская праваслаўная епархія, а таксама Ваяводскі аддзел Хрысціянскага грамадскага аб'яднання ў Беластоку не адзін раз ладзілі ўжо супольна буйныя і змястоўныя міжнародныя сустрэчы, дыскусіі, сімпозіумы ды іншыя мерапрыемствы ў абарону міру.

У гэтым годзе таксама. З 18 па 19 мая адбудзецца ў Беластоку міжнародная сустрэча дзеля супольнага абмеркавання пытання: **„Мір патрабуе актыўнасці ў ліквідацыі голаду, убоства і гонкі ўзбраенняў".**

Месца сустрэчы — Беластоцкая філармонія. Пачатак у суботу, 18 мая, у 11 гадзін. Раней для жадаючых удзельнікаў сустрэчы будзе наладжана багаслужба ў кафедральным саборы.

Праграма гэтай двухдзённай сустрэчы вельмі ж багатая. Пачнецца яна прывітальным словам епіскапа Саввы, а затым прадбачваюцца даклады і выступленні многіх вядомых духоўных і свецкіх.

Другі дзень сустрэчы (ужо ў будынку прафсаюзаў) прызначаецца ў асноўным абмяркоўцы пытанняў, прысвечаных тысячагоддзю хрышчэння Кіеўскай Русі. І тут з асноўным дакладам выступіць вядомы гісторык, праф. Уладзіслаў Сэрчык. Прадстаўнік Маскоўскага праваслаўнага патрыярхата будзе гаварыць аб ролі св. Уладзіміра ў заснаванні Праваслаўнай царквы і аб фарміраванні дзяржаўнасці сярод усходніх славян. Прадбачваюцца выступленні іншых вядомых даследчыкаў гісторыі і асноў праваслаўя, між іншым: Аляксандра Наумава, Станіслава Александровіча, Мар'яна Бендзы і іншых.

Сустрэчу ўзбагаціць мастацкая частка.

Арганізатары гэтай гуманітарнай сустрэчы спадзяюцца прыбыцця ўдзельнікаў з Савецкага Саюза, Фінляндыі, Венгрыі, Галандыі, Балгарыі, Чэхаславакіі, ЗША, Вялікабрытаніі, Францыі, Швейцарыі, Грэцыі і Аб'яднаных Арабскіх Эміратаў.

Напярэдадні беластоцкай сустрэчы за мір і супроць голаду праваслаўная моладзь з усяе Польшчы з удзелам замежных гасцей здзейсніць двухдзённае паломніцтва на Святую Гару ў Грабарцы. Гэта ўжо традыцыйная майская сустрэча.

У гэтым годзе ў час маладзёжнага паломніцтва на Грабарку можна будзе пачуць таксама беларускую мову. На ёй падавацца будуць розныя паведамленні і камунікі.

І ўрэшце-рэшт на апошні тыдзень мая варта будзе перанесціся ў Гайнаўку — на чарговыя Дні царкоўнай музыкі. Здаўна вядома: калі гучаць песні, тады маўчаць гарматы.

**Ян Вірскі**

# ЭЛІТА ЧЫТАЦКАЙ ПУБЛІКІ

**(Працяг са стар. 1)**

сказаў бы Сакрат Яновіч, нямала звычайнай заядласці!

Што вам з прачытанага найболей спадабалася і чаму? Такая была сутнасць пастаўленага ўдзельнікам чытацкага конкурсу пытання. Свае адказы кожны дасылаў у „Ніву" або ў БГКТ. З гэтымі адказамі журы конкурсу пазнаёмілася загадзя, перад фінальнай сустрэчай чытачоў 5 красавіка, у Бельскім клубе БГКТ. Журы, вядома, выпрацавала ўласныя крытэрыі і пагляд на пытанні ацэнкі. А журы гэта — неўтаймаваны барацьбіт за беларускасць і выдатны пісьменнік Сакрат Яновіч, наша вядомая паэтэса Надзея Артымовіч, ну і я быў дачэплены да іх. Каб гэтае маё „я" не зрабілася зусім убогае ды голае, далам адразу, што менавіта я — нейкай дзівоснасцю лёсу — настаўнік англійскай мовы.

Усіх удзельнікаў конкурсу было дзевятнаццаць. Выразна пераважалі навучэнцы ліцэяў з беларускай мовай (трынаццаць чалавек). Прытым амаль усе з Бельскага, бо з Гайнаўскага было ўсяго дзве вучаніцы. Зрэшты, дзяўчаты наогул пераважалі сярод удзельнікаў конкурсу, было іх аж пятнаццаць. Неяк так ужо павялося, што ва ўзросце да васемнаццаці гадоў якраз дзяўчаты найбольш схільныя цікавіцца літаратурай, а хлопцы не вельмі. Потым, з гадамі, гэтая прапорцыя змяняецца наадварот, хлопцы пакідаюць футбол і бяруцца спазнаваць свет. Дзяўчаты выходзяць замуж, робяцца гаспадынямі ды змардаванымі беганінаю маткамі.

Што яшчэ можна сказаць пра ўдзельнікаў конкурсу ды іхнія пісьмовыя работы? У большасці выпадкаў прачытаныя на конкурс творы былі ўзяты, звычайна, са школьных праграмаў па беларускай мове. Значыць, класіка: Купала, Колас, Багдановіч. Само па сабе гэта няблага, варта і трэба ведаць нашых нацыянальных класікаў, асабліва вучню, якому за гэта ставіць настаўнік ацэнку. Аднак жа, на мой пагляд, такі конкурс не павінен быць абмежаваным да паўтарэння школьных ведаў. Гэтая заўвага датычыць перш за ўсё арганізатараў конкурсу. Трэба дабіцца болей канкрэтнай формулы гэтага мерапрыемства, калі хочам, каб утрымалася яно на доўгія гады. Калі хочам — увага! — пашырэння г р а м а д с к а г а рэзанансу беларускай літаратуры. Конкурс павінен прапагандаваць і сучасную беларускую літаратуру, творы пісьменнікаў сярэдняга і маладога пакаленняў. Ці школьная праграма прадбачвае вывучэнне творчасці Васіля Быкава або Уладзіміра Караткевіча? Мяркуючы па конкурсных работах — не прадбачвае... А гэта ж вялікія пісьменнікі! Таму варта ўзбагаціць рэгламент конкурсу.

Журы конкурсу вельмі напрацавалася. Адбывалася тое ва ўмовах інтэлектуальнай незалежнасці і, так сказаць, заядлага аб'ектывізму. Бачу вылучаны шэраг работ, якія характарызаваліся ўласнымі думкамі ўдзельнікаў ад прачытаных твораў, абгрунтаванасцю гэтых думак, самастойнасцю, а не паўторам чужых адкрыццяў.

Янка Мордань як інспектар ГП БГКТ, які шэфстваваў усяму, правёў сярод удзельнікаў конкурсу надта сур'ёзную і на высокім узроўні віктарыну. Трэба было паказаць сябе ў ёй сарыентаваным у беларускай літаратуры, таксама і ў той яе частцы, якую ствараюць нашы „белавежцы". На маё здзіўленне, гэтая нялёгкая віктарына адбылася добра, не далі рады на ёй толькі некаторыя ўдзельнікі. Такім цяжкім парогам ім было пытанне пра аўтарства верша „Камсамольскі білет", які прагучаў у выкананні самога Морданя. Сёй-той не вельмі што чуў і пра Уладзіміра Караткевіча.

Сакрат Яновіч як старшыня журы справіўся са сваёй роляй выдатна. Ён выклікаў фіналістаў на зацікаўленыя, неказённыя выказванні наконт прачытаных імі твораў.

Першыя месцы — два — былі прызнаны Эве Навіцкай і Элі Бэзюк. Другія — Хрысціне Місеюк і Ані Мушыц. Трэція — было тут тры ўзнагароды — атрымалі Эля Маслоўская, Ёля Дзмітрук, Яраслаў Іванюк.

Толькі Хрысціна Місеюк — вучаніца Гайнаўскага ліцэя з беларускай мовай, а ўся рэшта — гэта бяльчане. Добрыя вынікі бельскіх вучняў не павінны здзіўляць: імі апекаваўся сам дырэктар ліцэя, Аляксей Карпюк, не кажучы ўжо пра вялікую помач ім, аказаную Зінаідай Дэмянюк як настаўніцай беларускай мовы ў гэтай школе. Добра падрыхтавала яна конкурснікаў, моцна!

**Іван Максімюк**




## АЎРОРА — ГЭТА ЖАНЧЫНА, БАРСКІ!

Хачу сказаць я пару словаў на тэму артыкула Алеся Барскага „Аб самародках“. Ён піша: „Гаворачы аб самародках — аўтарах „Нівы“, маю на ўвазе тых людзей, якія беларусазнаўчай адукацыі не маюць і, нягледзячы на гэта, дасканала адчуваюць беларускую душу і патрапяць аб ёй сказаць вельмі важныя, а нярэдка адкрыўчыя праўды“.

Як прыклад такога самародка падае аўтар прозвішча памёршага Дзядзькі Кваса і мяне. Што датычыць Дзядзькі Кваса, то я згодная з тым, але што датычыць мяне, дык я не пагаджаюся. Беларусазнаўчую адукацыю я маю: сем галоў вывучала беларускую мову ў вясковай школе, а пасля чатыры гады — у ліцэі. Тое, што я — беларуска, ведала здаўна, але беларускай літаратурнай мовы я ста працэнтах, праўда, не ведаю. У чым прычына?

Па-першае, я штодзень гавару па-свойму, але гэта не літаратурная мова. Па-другое, хаця добрыя настаўнікі вучылі мяне літаратурнай мове, то ўсё-такі не рабілі яны аднаго — рэдка давалі пісаць сачыненні на вольныя тэмы. Больш сачыненняў было па апрацоўцы літаратурнага твора. Я і мае сябры бралі словы з кніжкі, пераважна перапісвалі чужыя думкі. А калі атрымлівалі мы задачу напісаць сачыненне на вольную тэму, тады карысталіся слоўнікамі. У такіх умовах навучання цяжка авалодаць літаратурнай мовай. Вось, аднойчы, пішучы артыкул, я не ведала, як напісаць па-беларуску nadużywanie. Доўга я думала над беларускай перадачай гэтага паняцця ды нічога сэнсоўнага так і не прыдумала. Давай тады я шукаць таго ў слоўніку, і там даведалася, што гэта будзе „злоўжыванне“. Нямала слоў у нашай культурнай мове, якіх я яшчэ не ведаю. Аднак стараюся і буду старацца, каб ведаць усё багацце мовы беларускай культуры.

Я не разумею, адкуль у Алеся Барскага аж столькі ўпэўненасці, і што ніколі не сустракаў мяне і Дзядзькі Кваса. Барскі праўдзіў нямала аўтарскіх сустрэч, шмат каго бачыў і шмат з кім гаварыў, натуральна, не заўсёды ведаючы пра тое, з кім гэта. І Дзядзьку Кваса, думаю, бачыў... Толькі асабіста не пазнаёміўся з ім. Мяне ён бачыў чатыры разы і я яго — чатыры. Я Барскага ведаю, бо ён — паэт, вялікі чалавек, а ён мяне не ведае, бо і навошта Барскаму ўсіх ведаць.

Першы раз убачыла я Барскага, калі вучылася яшчэ ў пачатковай школе. Была я тады ў пятым класе. Барскі прыехаў у нашу школу і цікава расказваў пра сябе, пра свае вершы і дэкламаваў іх. Казаў, што почырк у яго жахлівы, а ў доказ сказанага ім паказаў вучням сшытак сваіх вершаў: няхай сваімі вачыма пабачаць яны, як ён піша, почырк які ў яго. Мы глядзелі

(Працяг на стар. 5)

## Свойскія малюнкі



*Стары Беласток. Вуліца Чорная. Мал. Уладзіслава Петрука.*




Разоў тры-чатыры ў год даводзіцца мне ехаць ПКСам з Варшавы ў Гайнаўку. Гэта займальнае падарожжа цераз Мазоўша і Падляшша. А ў гэтым годзе першае такое падарожжа было ў мяне на пераломе сакавіка і красавіка. Дзень выпаў заімглёны, шэры — звычайна як у прадвесне. Дзе-нідзе ляжаў яшчэ снег, стаялі лужыны вады. І, каб не апусціцца ў прыкры настрой, пачала я ўяўляць сабе, як гэта ўвесну або ўлетку будуць выглядаць тыя мясцовасці, праз якія імчаўся аўтобус. Ажно задрамала... Раптам аўтобус затармазіў, пасажыры калыхнуліся, а я бачу, што затрымаліся мы ў Мілейчыцах. Ужо раней я заўважыла, што гэтае мястэчка чамусьці вельмі занядбанае. Але цяпер, у гэты неспрыяльны час, асабліва брыдкімі здаліся мне Мілейчыцы, хаця назва гэтай мясцовасці мілагучная, неяк па-беларуску мяккая і сардэчная.

Гледзячы на Мілейчыцы я зусім не змагла ўявіць сабе, як тут будзе вясною або летам, у маі ці ў чэрвені. Таму гэтак, што ўспомніла я, як было тут у мінулым годзе. Вось, хаця б будынак крамы, амаль найбольш рэпрэзентабельны, ды патанае ён у балагане вакол яго. Ад ягонага франтона нехта надумаўся паставіць агароджу з драцянае сеткі, за якою накастражылі ўсякіх скрынак, непатрэбных упаковак, кантэйнераў. Ці ж трэба такі склад рабіць каля тратуара, замест у закутку падворышча? Ці не лепей было б зрабіць у гэтым месцы клумбу, пасадзіць кветкі? Крыху далей, але побач тае ж крамы, паставілі ардынарны „нужнік“, усё роўна як няма ўжо чым больш пахваліцца ў архітэктуры мястэчка! І такі аб'ект, вядома, патрэбны, ды ці ж не можна было ўбудаваць яго больш далікатна, з заслонаю ад вуліцы, а не з дзвярыма наросцеж?! Кусты аздобныя пасадзіць па баках, падмаскіраваць, прыхарашыць... Даўно вядома праўда, што культурнасць чалавека або мясцовасці пазнаюць па санітарным становішчы.

І мілейчыцкая пошта не ў лепшым стане знаходзіцца, будынак яе страшэнна запушчаны. Аблуплены ён якісьці, палушчаны, дзверы і не нюхалі фарбы. Ды, наогул, чаму гэта ў Мілейчыцах так мала аздобнай зелені, насаджэнняў? Няўжо тутэйшыя не любяць прыгожа жыць? А тыя платы мілейчыцкія, гнілыя і разваленыя, наводзяць панурыя думкі. Аніякія акцыі парадку сюды, відаць, не даходзілі.

Аўтобус рушыў з Мілейчыц і за яго вокнамі ізноў паплыў перад вачыма спакойны, меланхалічны пейзаж нашай старонкі. Неўзабаве ўбачыла я вёску Дашы. І тут, усё роўна што на злосць для мяне, аўтобус затрымаўся каля нейкай развалены стадолы, такой клунькі, падобнай на пакінуты хлеў. Сцяна ў ёй увалілася ўсярэдзіну, дах скрывіўся, абвальваецца. Каму патрэбна такая „аздоба“? Дашам?

Нашы людзі, аж да нудоты ўжо, любяць гаварыць, як гэта ім цяпер добра жыць зрабілася. Ужо слухаць абрыдла ўсё пра адно і тое ж! А я сабе думаю так: калі мы зажылі па-людску, дык чаму гэта самі такія нялюдскія, па даўняй мужыцкай звычцы абыякавыя. А жыць жа трэба не толькі добра, але і прыгожа, чыста, акуратна, дбаючы пра свой выгляд і выгляд акружэння, вакол сябе і сваёй мясціны. Можа ўвесну, на заклік ПРОНу, каб парадкі рабіць і культурней жыць, маладыя хоць зрушацца. І ў Мілейчыцах, і ў Дашах і ў іншых нашых задрыпаных мясцінах. Дабрабыт і задрыпанасць — гэта несумяшчальныя рэчы, задрыпанасць калісьці магла быць апраўданай, але не цяпер, не ў наш час, калі маем і хлеб і да хлеба, і касцюмы, і аўта...

**А. Анішэўская**

## ПЕРШАЯ СУСТРЭЧА

(Працяг са стар. 1)

толькі іх прозвішчы. Гэта **Данута Ліпская**, вядомая сярод „каракулінцаў“ як Свідэрская, **Ірына Томчык**; якая паненкай называлася Хапаўская, **Ванда Ядлоўская** (даўней — Паўлючук), **Надзея Высоцкая** (даўней — Герасімюк), **Ядвіга Кашэўнік**, **Крысціна Заторская** (у паненках — Варвас), **Ежы Радзюкевіч**, які вяртаўся ў Беласток цераз Ірач і Монтэ Касіна. І ўрэшце-рэшт — **Адольф Яласінскі**, які ў Каракуліна не даехаў, а яшчэ недзе ў раёне Маладзечна адбіўся ад транспарту дзяцей з Друскеніцкага піянерскага лагера. Аж з Гдыні адгукнуўся **Альфрэд Місевіч**, які пасля вайны стаў лётчыкам.

Пішу я тут „дзеці з Каракуліна“. Гэты сказ разумець трэба ўмоўна. Удзельнікі піянерскага лагера ў Друскеніках пабывалі не толькі ў Каракуліне. Некаторыя з іх амаль чатыры гады са свайго жыцця правялі ва Уфе. На іх шляху быў яшчэ Сарапуль і іншыя мясцовасці ва ўсходніх раёнах СССР.

І вось у першую суботу красавіка 1987 года ўпершыню яны ў пасляваенны час сабраліся на сяброўскую сустрэчу. Прышлі, вядома, толькі тыя сярод даўнейшых „каракулінцаў“ і „ўфоўцаў“, хто жыве ў Беластоку і каго ўдалося мне паведаміць аб сустрэчы. Гасціну на гэтае спатканне даў нам дырэктар клуба Міжнароднага друку і кніжкі, Вітальд Далэнгоўскі, які распарадзіўся, каб чытальня міжнародных газет і часопісаў на дзве гадзіны заставалася ў нашым выключна распараджэнні.

Найважнейшай нагодай для гэтай сустрэчы было звычайнае чалавечае жаданне, каб пабачыцца з колішнімі сябрамі долі і нядолі, каб запытаць іх пра здароўе, дзяцей і ўнукаў. Нават у групе гэтых 12-ці чалавек, якія прышлі на сустрэчу ў чытальні „эмпіка“, знайшліся і такія, якія ад 1945 года — ад моманту вяртання з Савецкага Саюза — нічога не ведалі пра існаванне іншых, пра іхні лёс. Нават не адразу, з першага позірку, удавалася пазнаць хто ёсць хто.

Была, не скрываю, яшчэ і дадатковая, магчыма, болей заманлівая нагода. У Беласток прыехалі прадстаўнікі Савецкага тэлебачання, супрацоўнікі Мінскага тэлецэнтра: **Ігар Аляксандравіч Рудаметаў** — галоўны рэдактар Галоўнай рэдакцыі прапаганды, і **Алег Вячаслававіч Марозаў** — спецыяльны карэспандэнт Беларускага тэлебачання. Абодва яны ахвотна і вельмі добра гавораць па-беларуску, хаця і заяўляюць, што па нацыянальнасці яны не беларусы.

Спадарожнічала ім яшчэ тэхнічная экіпа з Варшаўскага тэ-

### ЯК У ОРЛІ КУПІЦЬ РАНА ХЛЕБ?

Дайшла да нас вестка, што не ўсе ў Орлі задаволены працай тамтэйшых спажывецкіх крамаў. Першы і найважнейшы закід — крамы ў Орлі адкрываюцца запозна.

Адкрываюцца ж яны ў сем гадзін раніцы і пакупнікі тады ўсе разам уваходзяць за хлебам і малаком. Спяшаюцца надта, робіцца чарга, адным словам — нікому непатрэбныя нервы. Даецца прапанова, каб спажывецкія крамы ў Орлі адкрываць раней, у шэсць гадзін раніцы, або нават у 5.30. Прыпомнім тут, што ў гарадах спажывецкія крамы нармальна працуюць з 5-й гадзіны раніцы, а пастаўка тавараў у іх робіцца ноччу.

А ў Орлі, гавораць нам, крыху адкрыюць у 7, але найперш трэба прыняць хлеб. І пакуль купіш, бывае, б'е гадзіна восьмая.

Малако ў другой краме таксама лёгка ў Орлі не купіш, бо пасля адкрыцця гэтай крамы ў 7 гадзін адна прадаўшчыца едзе па вяндліну, застаецца толькі адна і гэта — на час найбольшай гарачкі. Таксама нешта недадумана.

Орля — рабоча-сялянскі пасёлак. І рабочыя мусяць паспець на работу і сяляне рана выйсці ў поле. Цяпер сама сезон палявых работ. Таму, здаецца нам, праўленне ГС у Орлі павінна разгледзець вышэй выказаныя ўвагі і вырашыць гандлёвыя справы для агульнага дабра. **(вв)**

### КАБ ГОРАД НЕ БАГАЦЕЎ

— Як выглядае звычайны дзень у медсястры? — з такім запытаннем звярнуўся я да Яніны Бусловіч, адной з вядомых бельскіх медыцынскіх сясцёр.

— Два разы ў тыдзень выязджаю я ў вёскі і мястэчкі раёна, а пастаянна працую ў асяродку здароўя, праводжу медыцынскі догляд хворых, якія знаходзяцца на пазабальнічным лячэнні. Часта трэба наведваць таксама і пажылых людзей, у якіх ужо няма сілы хадзіць да лекараў. У Бельску працую я ўжо больш за васемнаццаць год. За гэтакі час добра зведала асяроддзе, маю арыентацыю ў тым, што і каму трэба. А людзі ведаюць мяне. Гэта вельмі важнае, такое ўзаемнае веданне сябе. Выклікае давер яно, без якога не можа быць добрага лячэння.

У вёсках — а прыпісана мне іх больш дваццаці — я заўважыла з'яву, якой раней не наглядалася ў нас, а менавіта вялікую дбайнасць пра дзяцей. Вясковыя дзеці часта лепей цяпер дагледжаныя, чымсьці іх гарадскія равеснікі, — кажа Яніна Бусловіч.

Яе словы наводзяць на думку, што гэта адна з праяваў раўнання вёскі з горадам. У вёсцы ўжо не так цяжка жыць, як даўней, і павінна быць усё лягчэй, бо толькі тады перастануць людзі ўцякаць з яе ў гарадскі „рай". Каб горад не багацеў.

**Андрэй Гаўрылюк**

## БЕЛАРУСІКІ

1982

Maldzis Adam, Na skryżawanni sławianskich tradycyj. Mińsk 1980. Rec. Ciechanowicz Jan, *Rocznik Towarzystwa Literackiego im. Adama Mickiewicza* R. 17/18: 1982/1983 s. 209—215.

Michniewicz Jurij, Dni kultury białoruskiej w Polsce. Tł. *Trybuna Ludu* 1982 nr 242 s. 6.

Mieszkow N.", Wkład w naucznotiechniczieskij i socyalnyj progriess wuzow Biełorussii. *Sowriemiennaja Wysszaja Szkoła* 1982 nr 2 s. 19—28.

Nieuważny Florian, O co pyta białoruska literatura? *Kontrasty* 1982 nr 1 s. 37—40.

Ozga-Michalski Józef, Nie dla sławy i wawrzynu. W 100-lecie urodzin Janka Kupały. *Tygodnik Kulturalny* 1982 nr 16 s. 6, il.

Ozga-Michalski Józef, Z okazji Dni Literatury Białorusi w Polsce. *Tu i Teraz* 1982 nr 10 s. 9.

Panczanka Pimen, Młodym (w). — Na Podlasiu jesień (w). Tł. Tadeusz Chróścielewski. *Literatura na Świecie* 1982 nr 11 s. 116—117.

Radziuk Ryszard, Idiejno-chudożestwiennoje swojeobrazije powiestiej W. Bykowa. *Rocznik Naukowo-Dydaktyczny. Wyższa Szkoła Pedagogiczna w Rzeszowie. Filologia Rosyjska* 1982 z. 5 s. 189—215.

Saławiej Lija, Biełaruskaja narodnaja bałada. Mińsk 1978. Rec. Sielicki Franciszek. *Acta Universitatis Wratislaviensis nr 589 Slavica Wratislaviensia* 1982 t. 22 s. 105—106.

Sambuk Sasanna, Politika carizma w Biełorussii wo wtoroj połowinie XIX wieka. Mińsk 1980. Rec. Groniowski Krzysztof. *Zapiski Historyczne* 1982 z. 2 s. 120.

Saltuk Oleh, Życie literackie Witebszczyzny. Rozm. przepr. Alfred Siatecki. *Nadodrze* 1982 nr 17 s. 8.

Sielicki Franciszek, Białoruskie pieśni żniwne i polowe z okolic wsi Mikulino byłej gminy Dołhinów, powiatu wilejskiego. *Lud.* t. 66: 1982 s. 243—254.

Sobolewskij Jurij, Czerlunczakiewicz Włodzimierz, Sposób betonowania ścian szczelinowych stosowany w Białoruskiej SRR. *Inżynieria i Budownictwo* 1982 nr 5 s. 41—42, il.

Stralcou Michaś, Co się nam przyśni. Opow. Tł. Aleksander Sambor. *Literatura na Świecie* 1982 nr 11 s. 127—131.

**Р.С.**

(Працяг са стар. 1)

### ІНСТРУКТАРЫ ПАТРЭБНЫ, ЯК ХЛЕБ

агульны семінар для ўсіх удзельнікаў раённых курсаў.

Калектыў тады моцны, калі абапіраецца на сваіх людзях. Бо свае людзі ведаюць і любяць сваю песню і сваё слова, адчуваюць іх сэрцам — так гаворыць адзін з адданых людзей беларускай культуры. Ёсць перыяды, калі культурнае жыццё замірае, напрыклад, у вялікі пост. Тады якраз можна і рабіць такія курсы. Ужо прыйшоў час, каб нам сарганізавацца на вышэйшым узроўні. І гэтаму павінны служыць якраз курсы.

Хочацца, каб гэты запіс прапаноў і думак, гарачых жаданняў, запісаных ад усіх тых, хто пастаянна працуе на ніве беларускай культуры, знайшоў водгук і шчаслівае вырашэнне. **(вв)**

## КРАЯВІД ПЕРАД ПАТОПАМ



На дне будучага Семяноўскага заліва. Фота Юркі Баброўскага

кірунак палітыкі польскай дзяржавы: адышоў ад бацькавых імкненняў, абапіраючыся на саюз з Вялікім княствам Літоўскім, вызваліць паступова апанаваныя немцамі Шлёнск і Памор'е. Казімір, увайшоўшы ў блізкія суадносіны з венгерскім каралём, а нават з нямецкім імператарам і пры замірэнні з крыжакамі, пачаў наступ на ўсход, перш за ўсё на землі Галіцка-Валынскай Русі. У Вялікім княстве Літоўскім ён бачыў не толькі свайго канкурэнта, але і найважнейшага ворага. Узмацняла гэтую ўзаемную варажосць паміж Гедымінам і Казімірам і тое, што малады кароль цалкам адхіліў ад сябе законную жонку, каралеву Альдону-Анну, якая жыла з дзвюма дочкамі ў поўным забыцці. Неўзабаве, у 1339 г. каралева заўчасна і памерла. Гедымін быў задобрым палітыкам, каб не прадбачыць, што яго зяць неўзабаве можа стаць адкрытым ворагам Вялікага княства і заатакаваць яго.

У такіх умовах узнікла неадкладная патрэба нядаўна вызваленае Пабужжа сцісла знітаваць з усёй дзяржавай і належна ўмацаваць граніцу з Польшчай. Гэтую надзвычай адказную справу Гедымін ажыццяўляў разам са сваім сярэднім сынам Кейстутам, выношваючы ў сэрцы намер даручыць якраз гэтаму сыну ролю ахоўнага шчыта Вялікага княства Літоўскага ад націску з захаду. Як пабачым далей даручэнне аказалася геніяльным рашэннем удумлівага дзяржаўнага дзеяча. Што ж, хто як хто, але ён, родны бацька, найлепш запрыкмеціў якраз у Кейстута тыя якасці, тыя ўласцівасці, якімі валодаў самы блізкі яму, Гедыміну, чалавек і баявы паплечнік — князь гарадзенскі Давыд Даўмонтавіч. Хто ведае, мо пад наглядам якраз Давыда рос і выхоўваўся Кейстут? Мо Давыд быў яго хросным бацькам?

Гісторыя надта ж несправядліва абышлася з Кейстутам, заўсёды пакідаючы яго ў цені старэйшага брата Альгерда. І то, відаць, зусім выпадкова — проста пра Альгерда захавалася больш запісаў у летапісах і хроніках. Пра Кейстута, магчыма, было іх таксама не мала, але яны рана загінулі ў бясконцых войнах на пагранічны з крыжакамі.

Як згодна паведамляюць беларускія летапісы, а таксама іншамоўныя крыніцы, Гедымін яшчэ пры жыцці надзяліў Кейстута найбольш шчодра з усіх сыноў, даючы яму самы разлеглы ўдзел: Жамойцкую, Троцкую, Гарадзенскую, Дарагічынскую і Берасцейскую землі — усё пагранічча Вялікага княства Літоўскага з Лівоніяй (Інфлянтамі), Крыжацкім ордэнам, Мазоўшам і Малапольшчай. Гэта значыць, амаль ад ваколіц сённяшняй Рыгі пры вусці Дзвіны — на поўначы і аж па Владаву на Сярэднім Бузе — на поўдні; сама меней 600 км даўжынёй і 100-200 км шырынёй, разам каля 90 тысяч кв. км. У тагачаснай Еўропе нямнога было дзяржаў такой велічыні. Для прыкладу, Каралеўства Польскае ў апошнія гады панавання Уладзіслава Лакетка мала чым перавышала 100 тыс. кв. км.

Гедымін вылучыў гэтую ахоўную „франтавую паласу", мабыць, падчас свайго зімавання ў Бярэсці і потым амаль цэлае дзесяцігоддзе, бо аж да самае смерці, займаўся разам з Кейстутам належным умацаваннем яе абароны. Апрача абнаўлення і ўзмацнення існуючых дагэтуль крэпасцяў, засекаў і завалаў пачалі паўставаць новыя цвердзі, была ўдасканалена арганізацыя абароны, асабліва народнае апалчэнне — „віці" (абавязковы выхад на вайну ўсіх дарослых мужчын), устаноўлены сталыя варты мясцовага насельніцтва ў пагранічных старажавых крэпасцях і іншыя ахоўныя сродкі.

Падчас гэтых прац выдатна, мабыць, праявіў сябе Кейстут. Няма сумнення, што ўдумлівы і разважлівы бацька не пусціў сына самапасам, хаця таму ў той час было ўжо гадоў пад сорак. Зрэшты, Гедымін не аднаго Кейстута, але таксама і другіх сваіх шматлікіх сыноў вельмі цярпліва і старанліва вучыў дзяржаўнаму мысленню і ўчынкам. Перш за ўсё ён выхаваў іх на разважлівых, мужных, настойлівых дзяржаўных дзеячоў. Яму ўдалося таксама прышчапіць ім глыбокае і трывалае пачуццё братэрскай еднасці, салідарнасці. І кожны сын імкнуўся быць такім, як бацька, стараццелем пра магутнасць свае Айчыны.

**Мікола Гайдук**

## БЕЛАРУСКІ ФАЛЬКЛОР

### ЗАХАДЫ І ПРАКТЫКІ ПРЫ ЎМІРАЮЧЫМ

Прыбліжэнне смерці ў выпадку старога чалавека трактавалася ва ўсходняй Беласточчыне як нешта неабходнае і ўласцівае і таму мэтай разнародных захадаў, якія выконваліся пры хворым, было не аддаленне смерці, а прыклікание яе. У многіх вёсках паміраючага, які доўга мучыўся, знімалі з ложка і клалі на падлозе на кажусе або на рассцеленай саломе. Існавала перакананне, што гэта паскарае смерць.

У вёсцы Галады цяжка хворага абкладвалі свянцонымі зёлкамі і выказвалі формулу-пажаданне: „Ідзі, боль, на лес, на воду бігушчу". Калі хворы ў далейшым мучыўся, прыклікалі старую жанчыну, якая абцірала канаючаму твар чорнай хусткаю, а пасля махала ёю ў напрамку дзвярэй і гаварыла „Ідзі, ліхо, вон". Захады гэты былі звязаны з перакананнем, што „ліхо" перашкаджае хвораму спакойна памерці. Пры гэтым забаранялася ў хаце голасна плакаць, ці прычытваць, бо паводле мясцовых перакананняў гэта „одстрашало смэрть", якая баялася ўвайсці ў хату, калі ў ёй было шумна. Калі ўмірала асоба, якая займалася чарадзействам — а яно заўсёды трактавалася, як форма кантактаў з нячыстымі сіламі — дык нельга было пры ёй маліцца. Калі б пры такой асобе нехта маліўся, то смерць забрала б не чараўніка, а толькі таго, хто пры ім моліцца. Калі было вядома, што чараўнік быў чалавекам злосным і драпежным, дык увайшоўшы ў пакой, у якім ён ляжаў, трэба было ўкленчыць і вышаптаць словы: „Хай тэбэ чэрті схватят".

Яшчэ ў міжваенны перыяд здараліся выпадкі, што сын або муж „чараўніцы" або „варажбіткі", якая доўга не магла памерці, пры дапамозе асінавых клінкоў прыпаднімалі дошку ў столі, або ўвогуле адрывалі дошку, каб праз такую дзірку мог прыйсці па грэшну душу д'ябал: „Бо бачыш, — гаворыць жыхарка вёскі Бяндзюга, Анастасія Міруць, — гэто е так, што па душу нармальнага чалавека прыходзіт ангел, каторы прылятае праз комін. А па душу чмутара або чмутаркі то заўшэ прылятае чорт. А ён то ні можэ прылецець праз комін, бо баіцца святого агню. То значыцца, каб ён мог як-лень дастацца ў хату, то мужык або сын чмутаркі або варожкі — бо то бабы найчасцей займаліся гэтым дзелом — адрываў у полапі доску, каб праз дзірку мог прыляцець чорт, схваціць душу грэшніцы. Ну, яно вадомо, што чмутарка або варожка ні магла навет і думаць, каб яе душа папала ў рай. Для такіх месца толькі ў пеклаві".

Ва ўспомненых ужо Галадах было распаўсюджана меркаванне аб тым, што доўга не могуць памерці таксама людзі, якія вызначаліся пры жыцці марудлівасцю і лянотаю, бо смерць характарызуецца выключнай старанлівасцю і працавітасцю і таму пагарджае лянівымі і не спяшаецца забраць іх з гэтага свету.

Я ўжо сказаў, што большасць старых беларусаў і іх сем'яў успрыймала смерць, як з'яву натуральную, якой нельга перашкаджаць. Аднак здараліся выпадкі, калі людзі лічылі, што смерць прыходзіць заўчасна і трэба ёй перашкодзіць у доступе да хворага. У многіх казках, звязаных з Заходняй Беларуссю, выступае матыў спробы ашукання смерці. Найчасцей праяўляецца гэта ў спробе канструявання абаротнага ложа, якое паварочваецца ў другі бок, калі толькі пры галаве паміраючага сядзе смерць. Аднак такі прыём заканчваецца няўдачай, бо смерць у канцы канцоў знаходзіць доступ да хворага. Казкі такога тыпу маюць, як правіла, загаловак або заканчэнне тыпу: „Круці не круці, а трэба ўмерці".

У вёсцы Вітава пры першых прыкметах надыходзячай смерці члены сям'і паміраючага стараліся як найдакладней закрыць вокны, фортачкі, шыбры ў коміне, каб перашкодзіць смерці ў доступе да хворага. Калі, аднак, азнакі канання станавіліся выразныя, тады адчынялі і вокны і коміны.

**А. Баршчэўскі**

### БЕЗ КОНСКАГА ЗДАРОЎЯ НЕ ПРЫХОДЗЬ!

У аўторак, 31 сакавіка, выбралася я ў Гайнаўку, каб рэнтген зрабіць. Была я ўжо чацвёртай у чарзе да рэнтгена. Людзі ўсё прыходзілі і хутка сабраўся натоўп. Цярпліва чакалі. Раптам выйшла аднекуль адна жанчына, якая сказала ўсім, што рэнтген папсаваўся. Ужо не першы дзень папсаваны. Неўзабаве, за ёю, з'явілася медсястра і пацвердзіла тое.

— Дык чаму не пісалі карткі якое пра тое!? — зашумелі людзі.

— Была такая картка, але, відаць, нейкі дурань сарваў яе, — адказала тая сястра.

— То новую пачапіце! ...

Потым пачалі людзі дапытвацца, калі той рэнтген парамантуюць.

— Невядома, — гаварыла ім медсястра, — можа сёння парамантуюць, а можа быць, што і заўтра або і паслязаўтра; ён, зрэшты, часта псуецца.

Паслухаўшы такіх навінаў, я, услед за людзьмі, павалаклася назад, дамоў. Буду прыходзіць сюды штодзень, бо каторага дня, можа будзе рэнтген парамантаваны... Я пачынаю верыць пачутым там жартам, што каб лячыцца, трэба мець цяпер конскае здароўе.

**Аўрора**

### ПРЫКАЗКІ

Госць, не дзьміся, — еш, што ў місе.

*

Добрае доўга помніцца, а благое яшчэ даўжэй.

*

Не дораг абед, а дораг прывет.

## КАФЕДРА БЕЛАРУСКАЙ ФІЛАЛОГІІ ВАРШАЎСКАГА УНІВЕРСІТЭТА

### ПЫТАННІ НА ЎСТУПНЫ ЭКЗАМЕН

**Пытанні па беларускай літаратуры**

1. Агульная характарыстыка і прычыны развіцця беларускай літаратуры ў пачатку XIX ст. 2. Развіццё ананімнай паэзіі ў XIX ст. („Энеіда навыварат" і „Тарас на Парнасе"). 3. Значэнне творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча для беларускай літаратуры XIX ст. 4. Літаратурныя напрамкі ў творчасці Дуніна-Марцінкевіча. 5. Характарыстыка беларускай творчасці А. Рыпінскага, Я. Баршчэўскага і Я. Чачота. 6. Галоўныя ідэі і напрамкі ў творчасці Ф. Багушэвіча. 7. Традыцыя і наватарства ў творчасці Я. Лучыны. 8. Характарыстыка перыяду „Нашай нівы" і яго роля ў развіцці беларускай літаратуры. 9. Розніца паміж прозай і паэзіяй Э. Цёткі. 10. Агульная характарыстыка паэзіі Я. Купалы. 11. Драматургія Я. Купалы. 12. Наватарства творчасці М. Багдановіча. 13. Характарыстыка „Новай зямлі" Я. Коласа. 14 Праблематыка апавяданняў і трылогіі Я. Коласа. 15. Асаблівасці прозы К. Чорнага. 16. Характарыстыка творчасці М. Лынькова. 17. Галоўныя ідэі і напрамкі ў паэзіі М. Танка. 18. Сувязі Танка з Польшчай і польскай літаратурай. 19. Польска-беларускія літаратурныя сувязі. 20. Беларускія сучасныя літаратурныя часопісы. 21. Характарыстыка творчасці любога сучаснага беларускага пісьменніка. 22. Характарыстыка творчасці любога сучаснага беларускага паэта. 23. Характарыстыка творчасці беларускіх пісьменнікаў у Польшчы. 24. Літаратурныя творы на старонках „Нівы".

**Пытанні па беларускай мове**

1. Аканне і яканне ў беларускай мове. 2. Дзеканне і цеканне. 3. Правапіс прыстаўных галосных гукаў. 4. Правапіс прыстаўных зычных: в, г. 5. Правапіс ў (кароткага). 6. Падаўжэнне і падваенне зычных 7. Правапіс раздзяляльнага і мяккага знака і апострафа. 8. Ужыванне вялікай літары. 9. Сінонімы і антонімы. 10. Лексіка-семантычныя разрады назоўнікаў. Лік назоўнікаў. Скланенне назоўнікаў. Рознаскланяльныя і нескланяльныя назоўнікі. 11. Семантычныя групы прыметнікаў. Ступені параўнання: просты і складаны спосаб. 12. Разрады і скланенне лічэбнікаў. 13. Разрады і скланенне займеннікаў. 14. Граматычныя катэгорыі ўласцівыя дзеясловам (стан, трыванне, лад, час, асоба). Спражэнне дзеясловаў. Рознаспрагальныя дзеясловы. 15. Разрады прыслоўяў. Ступені параўнання прыслоўяў. 16. Сказ. Просты і складаны. Развіты і неразвіты. Аднасастаўны і двухсастаўны. Складаназлучаны і складаназалежны.

## ПАРНАСІК

чытальніцкая літстудыя на негарантаваных пазах

### ВЯСНА

На палях і лугах усё зазелянела,  
Красуецца зямля,  
Распускаюцца лісточкі,  
Прыляцелі птушкі.  
У гаі зашчабяталі салаўі.  
Лес у вясну прыбраўся.  
Над ручайком зацвіла лотаць.  
Сонца над ракой разлілося.  
Звяркі і жучкі павылазілі  
з логаваў.

**Валянціна Дзенісюк**  
Плёскі




### БАБКА З МОРКВЫ

На 500-600 г морквы трэба ўзяць 1-2 сталовыя лыжкі мукі, 30-40 г масла, 1-2 яйкі, 10-12 г дражджэй, 2 лыжкі цукру, соль.

У сцертую моркву дадаць распушчаныя ў вадзе дрожджы, а таксама яйкі, соль, муку, цукар і масла. Масу добра перамяшаць і паставіць у цёплым месцы, каб падрасла. Пасля гэтага палажыць яе ў металічную формачку, змазаную маслам, і ўставіць на 20 мінут у духоўку.

## СОННІК

— 71 —

**Мул** (жывёліна) — цяжкія часы, цяжкая праца; ехаць на ім — цяжкае падарожжа; наўючаны — прыгожыя падарункі.  
**Мул**, твань — цяжкія часы; патанаць у ім — неспакойныя думкі.  
**Мулат** — незвычайныя здарэнні і прыгоды.  
**Муляр** — спазненне з тэрміновай і важнай працай; дрэнны настрой, гнеў.  
**Мумія** — самотнае жыццё.  
**Мундзір** — прабуюць цябе ашукаць.  
**Мурава** — аднаўленне сяброўства; капаць — здароўе.  
**Мурашка** — даходная праца; разбураць мурашнік — разбураць сваё ўласнае шчасце; быць пакусаным — непрыемнасці.  
**Муры** высокія — павышэнне; нізкія — перашкоды; пераскокваць — пасля вялікіх цяжкасцей настане трывалая радасць; стаяць на іх — настойлівасцю здабудзеш каханую асобу; будаваць — перашкоды на шляху да мэты; руіны — небяспека пагражае камусьці блізкаму.  
**Мусульманін** — вытрымка, настойлівасць.  
**Мухі** — варожасць; лавіць — недазволеныя шляхі, якімі ідзеш, табе шкодзяць; забіваць іх — варожасць, непрыемнасці; нападуць на цябе, аблепяць мухі або іншыя насякомыя — засмучанне і цяжкая абраза.  
**Мучэнне** — пазбяжыш небяспекі; мучыць жывёлаў — пакуты.  
**Муштра** — атрымаеш звесткі, якіх спадзяешся.  
**Мыла** — засмучанне; купляць — упарадкуеш свае справы; карыстацца ім — небяспечныя шляхі, спосабы; мыліцца ім — цябе ашукаюць; мыльныя бурбалкі — кароткае шчасце.  
**Мыліцы** (у бязногага інваліда) — неспадзяваная дапамога.  
**Мыцца** — у чыстай вадзе — добрая прыкмета; у бруднай — хвароба.

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## ВЯСНА-КРАСНА



**Вучні пятага класа школы ў Нараўцы прывіталі вясну на спецыяльным уроку, тэмай якога было: Вітай вясна.**

### ПРЫВІТАННЕ ВЯСНЫ

Зіма — ударніца холаду, памалу растрачвала сваю моц. Дні ставалі прыгажэйшымі і весялейшымі. У адзін такі дзень зухі з настаўніцай Таісай Хіліманюк і гарцэры з настаўнікам Валянцінам Кандрацюком выйшлі са сваёй школы ў Барысаўцы і накіраваліся за вёску, каб утапіць саламяную ляльку, якая сімвалізавала надаеўшую зіму. Ляльку неслі найперш праз вёску, а потым павярнулі на палявую дарогу. За вёскай укінулі яе ў вялікі роў. Яна хутка паплыла.

Свята сустракання вясны закончылася гульнёй у лесе. Дзеці былі радасныя. Яны спявалі песні аб вясне. **Андрэй Ялоза**

**Фота В. Кандрацюка.**



**За вёскай ляльку ўкінулі ў роў.**

### ПРЫЯЦЕЛЬ ПРЫРОДЫ

У папярэднім нумары „Зоркі" мы пісалі пра аднаго дзядзьку з Нараўкі — Яна Казла, які ўсю зіму карміў птушак пад мастом. Гляньце на здымак. Ян Казёл сюды на рэчку прывозіў ежу і даваў птушкам. На здымку вы бачыце раку Нараўку, якая плыве праз мястэчка Нараўку.



Міхась Пазнякоў

## САДЗІМ АЛЕЮ

**Мы ў вясновую нядзелю**
**Садзім новую алею,**
**Садзім тут, уздоўж дарогі, —**
**Ў гонар свята Перамогі.**

**Таня — ліпку,**
**Клім — дубок,**
**Ясь — каштанік,**
**Я — клянок.**

**А Святлана і Наташа**
**Палiваюць дрэўцы нашы.**
**Так працуе ўвесь атрад,**
**Кожны справе добрай рад.**
**Хай расце і зелянее**
**Наша слаўная алея!**



## ВЯСНА

**Звініць вясна ў дубровах,**
**У сініх ручаях,**
**І сонейкам вясновым**
**Лясны гушчар прапах.**

**Калі вятрыска рэзкі**
**Кранае лес крадком,**
**Здаецца, і пралескі**
**Звіняць над ручаём.**

**Вясна траву галубіць,**
**У росах зіхаціць,**
**А сонца, быццам бубен,**
**Над шатамі звініць.**

**Прырода ажывае,**
**Зімовы гоніць сон,**
**І ў сэрцы нарастае**
**Вясновы гэты звон.**

Мікола Алтухоў

### ПРА КНІГІ

Самай старажытнай бібліятэкай у свеце вучоныя называюць бібліятэку асірыйскага цара Асурбаніпала. Бібліятэка знойдзена ў час раскопак у Ніневіі. Яна складаецца з 22 тысяч цагляных таблічак з клінапісным пісьмом. Гэта бібліятэка ўзнікла ў сёмым стагоддзі да нашай эры.

Першым буйным творам беларускай прозы з'яўляецца раман Цішкі Гартнага „Сокі цаліны", дакладней, яго першая частка „Бацькава воля", напісаная яшчэ ў дарэвалюцыйны час.

**Першая славяна-беларуская граматыка была складзена паслядоўнікам Францішка Скарыны Лаўрэнціем Зізаніем і выдадзена ў друкарні Віленскага брацтва ў 1596 годзе. У ёй 248 старонак. Складзена яна была ў форме пытанняў і адказаў, а ў канцы даваўся слоўнік.**

БЕЛАРУСКІЯ ПТУШКІ

**Авер'ян Дзяружынскі**

### САЛАВЕЙКА

**Там,**
**Дзе бэз**
**Квітнее весні,**
**Салавей**
**Спявае песні.**
**— Салавейка,**
**Дзе, скажы,**
**Твая жалейка?**
**Адказаў нам**
**Салавейка:**
**— Голас мой —**
**Мая жалейка.**



## ГУРТОК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў МАХНАТЫМ

Вельмі актыўна працуе такі гурток пры школе ў Махнатым. У ім у сярэднім займаецца 20 вучняў, якія пасля ўрокаў хочуць паглыбляць і пашыраць свае веды па беларускай мове і культуры. Хто хоча культурна развівацца, прыходзіць у гурток. Формы працы тут багатыя: вывучаюць фальклор, слухаюць музыку, праводзяць розныя конкурсы, арганізуюць беларускія вечары для дзяцей, рыхтуюць і вядуць адгаданкі.

Для прыкладу, як вывучаецца фальклор: чытаюць гурткоўцы раздзел „Новай зямлі" Якуба Коласа, п.з. „Куцця" ці „Вялікдзень". Пасля прачытанага настаўнік пытае: „А як у вас гэта праходзіць, як расказвае ваша мама ці бабуля. Распытайце, запішыце".

— На ўроку беларускай мовы, — гаворыць настаўнік Ян Міранюк, — галоўная мэта — узбагаціць слоўнік вучня, навучыць граматычна гаварыць і арфаграфічна пісаць. А гурток павінен пашыраць кругагляд вучня — няхай ён усебакова знаёміцца з беларускай культурай, няхай шукае свайго месца і сваёй ролі ў яе развіцці.

І галоўнае, што ўсе заняткі ў гуртку праводзяцца на беларускай мове.

Школьны гурток беларускай мовы ў Махнатым штогод арганізуе беларускі вечар для насельніцтва. У праграме такога вечара п'еса, песні, жарты. Праграму апрацоўваюць самі вучні, самі падбіраюць канферанс'е, а потым толькі кансультуюць з настаўнікамі.

У працы гуртка ўдзел прымаюць вучні ад пятага да восьмага класаў. Кожны ахвотны да працы, ідзе ў гурток.

У школе ў Махнатым ужо многа год працуе школьны беларускі тэатр, які кожны год ставіць новую п'есу.

На сёлетні конкурс школьных тэатраў падрыхтавалі яны дзве п'есы, якія паказалі таксама на аглядзе ў Гайнаўцы. (вв).

З франтавога гумару

## ПОЎНАЕ ВЕДАННЕ СПРАВЫ

Усе байцы як быццам аднолькава знішчаюць нямецка-фашысцкіх акупантаў. З аднолькавай злосцю. А паслухаеш іх — выходзіць, што існуе розніца: кожны б'е ворага па-свойму, прытрымліваючыся сваёй былой, даваеннай прафесіі.

Былы каваль, які гнуў да вайны падковы, зараз агрэе ў траншэйным баі прыкладам па галаве фрыца і прыгаворвае: „Яшчэ адзін загнуўся".

Былы цырульнік абавязкова жонцы сваёй напіша: „Дарагая мая! Учора мы зноў у разведцы здорава намылілі шыю фашыстам і так іх адбрылі, што абышлося нават без гарачага кампрэса".

Былы фатограф, непрыкметна падкраўшыся да варожага паставога, абавязкова шапне таварышам: „Спакойна, здымаю!"

Былы кравец, збіваючы чаргой з ручнога кулямёта „Месершміт", вядома ж, усклікне: „Вось дык прастрачыў! Раз'ехаўся па ўсіх швах!"

Былы рыбак, пацэліўшы ў галаву фашысцкаму галаварэзу, усміхнецца: „Клюнуў, гад!"

Былы настаўнік, камандзір гарматы, скамандуе: „Паўтарыць яшчэ раз! Паўтарэнне — маці вучэння".

Былы доктар, а на фронце ваенурач, сустрэўшы разведчыкаў з чарговай здабычай, не праміне павіншаваць іх: „Аперацыя з „языком" прайшла ўдала".

Былы бухгалтар, кінуўшы гранату ў эсэсаўскую зямлянку, з задаваленнем адзначыць: „Па ўсіх правілах! Баланс падведзены поўнасцю!"

І гэтак далей... Б'юць, як кажуць, з поўным веданнем сваёй справы.



— Батальён дзе, ідыёты?
— Вось ён тут — усе тры роты.

# НІЎКА



— Што ж так фальшуеш?!

### ПАШАНА

— Шануе вас зяць?

— Яшчэ і як! Учора сказаў, каб і нагі маёй на парозе не было: мабыць, на руках у хату ўносіць будзе.

### АБЯЦАННЕ

— Міколка, я абяцаў табе ровар, калі ты добра будзеш вучыцца. Якія ацэнкі ты атрымаў у гэтым тыдні?

— Дрэнныя.

— Чаму?

— Вучыўся ездзіць на ровары.

### ВАДА

— Ну што, галубчык, — звяртаецца да задрыпанца турэмны наглядчык, — ці не гарэлка прывяла цябе ў нашы сцены?

— Не, вада.

— ?

— Я быў загадчыкам малочнай фермы...

### УСЁ Ж ВІНАВАТЫ

Пачуўшы лямант, муж убягае ў суседні пакой. Над разбітай крыштальнай вазай стаіць разгубленая жонка.

— Добра, што мяне тут не было, — аблегчана ўздыхнуў муж, — а то зноў быў бы вінаваты.

— А ўсё ж вінаваты! — накінулася на яго жонка. — Бо калі б ты быў побач, то папярэдзіў бы, каб я тую вазу локцем на падлогу не сапхнула.

Made in Zadrypanka



Безразмерны халадзільнік.



Славалюб памёр адразу, як даведаўся, што на яго магіле напішуць узвелічальную эпітафію.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Лонданскі банкір наведаўся да вядомага хірурга і пытаецца, колькі будзе каштаваць аперацыя.

— Усяго тры тысячы фунтаў стэрлінгаў, — адказвае хірург.

— Але гэта ж так многа! — спалохаўся банкір.

— У такім выпадку, — параіў урач, — ідзіце да іншага хірурга. Вашы наследнікі заплацяць яму напалавіну менш.

*

Пісьменнік раіцца з жонкай:

— Эмілія, я якраз апісваю сцэну, дзе дамы гавораць аб модзе. Ты не памятаеш, што насілі жанчыны дваццаць год назад?

— Тую ж самую сукенку, якая цяпер на мне...

*

— Я ахвотна пашыю для вас касцюм, — гаворыць кліенту кравец, — але на гэта пройдзе месяц.

— Цэлы месяц! — усклікнуў заказчык. — Гасподзь стварыў увесь свет усяго за шэсць дзён!

— Стварыць дык стварыў, — згаджаецца кравец, — але паглядзіце, як ён выглядае!

### ВЫРУЧЫЎ

Стаіць Пятро на панадворку, калі якраз ідуць вуліцай з рыбаў Іван ды Мікіта. А ў Мікіты верхняя губа напухла.

Пятро пытае ў яго:

— Мікіта, што гэта ў цябе з губою?

— Ды пчала села на рыбах!

— Вось як укусіла?

— Ды не, гэта Іван вяслом ле забіў.

З „Весніка Задрыпоніі"

### ПОЎНАЯ АДПАВЕДНАСЦЬ

Ачуцінаўская мэблевая фабрыка выпусціла новую партыю гасцінных гарнітураў „Бумеранг". Прадукцыя цалкам адпавядае сваёй назве. Усе „Бумерангі" зноў вярнуліся на прадпрыемства.

### ПАРАДЫ

**Хочаш, каб цябе не перабівалі, — маўчы.**









# Курёзы

### КОЛЬКІ КАШТУЕ ЗОРКА

Буйнейшыя рэкламныя агенцтвы ЗША з фешэнебельнай Мэдысан-авеню ў Нью-Йорку ўжо даўно вядуць паляванне на зорак першай велічыні амерыканскай і заходнееўрапейскай поп-музыкі.

Спакушаныя рэкорднымі ганарарамі, якія ў шмат разоў перавышаюць тыя, што яны атрымліваюць за сваё майстэрства, вядомая спявачка Ціна Тэрнер услаўляе пепсі-колу, а група „Бічбойз" рэкламуе фруктовыя сокі фірмы „Санкіст". Кені Ро‑жэрс, салодкагалосы выканаўца сентыментальных песень у стылі „кантры", перастаў спяваць аб дачцэ багацея-суддзі, якая закахалася без памяці ў сына беднага шахцёра, і за 17 мільёнаў долараў узяўся ўслаўляць на ўвесь свет ананасы фірмы „Доул". Сам Мік Джэгер з „Ролінг стоунз" заняўся рэкламай дэзадарантаў і адэкалонаў.

Дзякі са свету рэкламы заўсёды марылі пераманіць каго-небудзь з брытанскага квартэта „Бітлз". І вось нядаўна ўдарнік Рынга Стар, спакушаны высокімі ганарарамі, падрадзіўся праслаўляць непараўнальныя якасці новага вядзерца для ахаладжвання шампанскага. Гаспадар рэкламнага агенцтва заўважыў пра Стара: „Ён ахвотна пагадзіўся, калі мы сказалі яму, колькі заплацім, і праявіў сябе вялікім прафесіяналам у нашай справе".





Калі вы згубілі дакументы і кашалёк з вялікай сумай, не хвалюйцеся. Яны ж могуць дастацца і добраму ча-лавеку.